www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 73 (3916)

19 верасня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЗ РЭТУШЫ



*Валерый КАРБАЛЕВІЧ*

# Геапалітычны крэдыт

**Урад Расіі прыняў рашэнне выдзеліць Беларусі ў 2014 годзе дзяржаўны крэдыт у суме 1 мільярд 550 мільёнаў долараў ЗША. Нагадаю, што яшчэ 450 мільёнаў долараў РФ выдзеліла ў ліпені. У суме атрымліваецца 2 мільярды, як і абяцаў Пуцін напрыканцы мінулага года. Праўда, усе гэтыя грошы вернуцца ў Расію — дзяржаўнаму банку ВТБ, у якога Мінск летам "перахапіў" пазыку на тыя ж 2 мільярды долараў.**

**Здавалася б, падзея не патрабуе асаблівага каментарыя, бо ўсё адбываецца паводле дамоўленасцяў паміж Лукашэнкам і Пуціным. Але хацеў бы звярнуць увагу на шэраг акалічнасцяў.**

**У снежні мінулага года, калі было абвешчана пра выдзяленне гэтага крэдыту, высокія прадстаўнікі расійскага Міністэрства фінансаў сцвярджалі, што з бюджэту будзе выдаткавана толькі 450 мільёнаў, а ўсё астатняе — "з іншых крыніц".**

**Было шмат размоў пра тое, што насамрэч урадавага крэдыту Расіі не будзе. Напрыклад, газета "Белорусы и рынок" (08.09.2014, № 35) выказала меркаванне, што *"тэму выдзялення так званага двухмільярднага расійскага крэдыту бягучым годам можна лічыць закрытай"*.**

**Сумненні ў верагоднасці таго, што Крэмль дасць пазыку, тлумачылі рознымі прычынамі. Казалі, што Маскве выгадна трымаць Мінск на кручку, карміць абяцанкамі, выдзяляць грошы дробнымі партыямі, каб віць з Лукашэнкі вяроўкі, прымусіць яго прадаць за бесцань пяць прадпрыемстваў у рамках "інтэграцыйных праектаў". Узгадвалі нейтральную пазіцыю Беларусі па ўкраінскім пытанні, спробы Мінска размарозіць адносіны з Захадам, за што, маўляў, Расія абавязкова павінна адпомсціць. Адзначалі цяжкую эканамічную сітуацыю ў Расіі з прычыны вялікіх выдаткаў на вайну з Украінай, заходніх эканамічных санкцый. Цяпер расійскі ўрад уключыў рэжым эканоміі, скарачаецца субсідзіраванне мясцовых бюджэтаў. Увогуле, зрабілася даволі распаўсюджанай думка, што *"змяншэнне эканамічнай дапамогі Беларусі з боку Расіі будзе ў любым выпадку, бо стан эканомікі Расіі пагаршаецца"*.**

**Тым не менш рашэнне даць двухмільярдны расійскі крэдыт прынята, прычым усе грошы выдзяляюцца менавіта з бюджэту Расіі, а не *"з іншых крыніц"*, як папярэджваў Мінфін РФ. Розніца ёсць: урадавы крэдыт таннейшы.**

**Што з усяго гэтага вынікае? Найперш, тое, што, нягледзячы на ўсе катаклізмы і забурэнні, якія бушуюць апошнія месяцы, ніякіх асаблівых змен у беларуска-расійскіх дачыненнях бліжэйшым часам чакаць не варта. Будзе ўсё, як заўсёды: запэўніванні ў брацкай інтэграцыі і сваркі, узаемныя папрокі, шантаж і расійскія датацыі.**

**Найбольшы ўплыў на стан беларускай эканомікі можа зрабіць той працэс, які ў Расіі атрымаў назву "падатковы манеўр". Расійскі ўрад плануе цягам пяці гадоў зменшыць памер нафтавага мыта і адначасова павялічыць падатак на здабычу нафты. У выніку актуальнае цяпер у двухбаковых адносінах пытанне пра выплату мыта за экспарт нафтапрадуктаў з Беларусі ў расійскі бюджэт знікне. Затое цана нафты для Беларусі значна павысіцца. Што можа ліквідаваць статус Беларусі як расійскага нафтавага афшору — з усімі наступствамі, якія вынікаюць адгэтуль для беларускай эканомікі. Нагадаю, экспарт нафтапрадуктаў дае каля трэці даходаў ад экспарту.**

**Увогуле, я не стаў бы звязваць аб'ём датацый Беларусі з боку Расіі са станам расійскай эканомікі. Досвед беларуска-расійскіх дачыненняў сведчыць пра тое, што непасрэднай сувязі тут няма. У 1990-я гады, у часы Ельцына, эканамічная сітуацыя ў Расіі была жахлівая, заробкі і пенсіі расійскім грамадзянам затрымліваліся месяцамі. Але тым не менш Беларусь купляла газ і нафту на льготных умовах, былі і іншыя формы субсідый.**

**І наадварот: сярэдзіна 2000-х была найбольш спрыяльным у эканамічным сэнсе перыядам для Расіі. У гэтыя тлустыя гады ўсясветныя цэны на нафту і газ былі высокія, нафтадолары цяклі поўнай плынню ў расійскі бюджэт. І якраз у гэты час Масква абвясціла, што больш не будзе субсідзіраваць Беларусь, бакі пераходзяць на рынкавыя адносіны. У выніку на мяжы 2006—2007 гадоў здарылася нафтагазавая вайна, Мінск пачаў шукаць магчымасці дыялогу з Захадам, Лукашэнка загаварыў пра рэформы і іншае.**

**То бок аб'ём датацый Беларусі з боку Расіі залежыць не столькі ад стану расійскай эканомікі, колькі ад палітычных рашэнняў у Крамлі. А палітыка там, як паказваюць апошнія падзеі, вызначаецца найперш з геапалітычнага пункту гледжання.**

*(svaboda.org)*

ЭКАНОМІКА

# Кожны беларус павінен 4288 долараў



Валавы знешні доўг Беларусі па ўсіх сектарах эканомікі па стане на 1 ліпеня 2014 года дасягнуў 40 млрд 609,1 млн долараў і вырас за паўгоддзе на 988 млн долараў, або на 2,5%. Такія дадзеныя ўтрымліваюцца ў статыстычнай справаздачы Нацыянальнага банка, падрыхтаванага па метадалогіі МВФ.

У справаздачы адзначаецца, што па стане на 1 ліпеня валавы знешні доўг склаў 55,5% ВУП, што адпавядае паказчыку на пачатак года. Разам з тым па выніках І квартала суадносіны валавога знешняга доўгу (39 млрд 269,1 млн) да ВУП складалі 54,1%.

Паводле дадзеных НББ, на 1 ліпеня 2014 года на душу насельніцтва ў краіне прыходзілася 4 тыс. 288,6 долара валавога знешняга доўгу.

У першым паўгоддзі Беларусь накіравала на абслугоўванне валавога знешняга доўгу 5 млрд 458,7 млн долараў, што складае 15,8% ВУП, або 24,8% экспарту тавараў і паслуг.

НАДВОР'Е

## *Даставайце парасоны!*

*На пачатку наступнага тыдня надвор'е ў Беларусі сапсуецца, паведаміла галоўны сіноптык Рэспубліканскага гідраметэацэнтра Святлана Рыбакова.*

У панядзелак надвор'е на тэрыторыі краіны будуць фарміраваць актыўныя атмасферныя франты, якія накіроўваюцца на Беларусь з боку Заходняй Еўропы. На большай частцы тэрыторыі краіны пройдуць дажджы. Днём месцамі чакаюцца моцныя дажджы, у асобных раёнах будуць грымець навальніцы. Прагназуецца ўзмацненне ветру з парывамі да 15—20 метраў у секунду. Тэмпература паветра ўначы складзе плюс 5—11 градусаў, днём паветра прагрэецца ад 10 да 17 градусаў цяпла.

*"У аўторак і сераду на тэрыторыю Беларусі пачнуць паступаць халаднаватыя няўстойлівыя паветраныя масы са Скандынаўскага паўвострава",* — дадала галоўны сіноптык. У сувязі з гэтым чакаецца няўстойлівае, сырое, ветранае надвор'е. Тэмпература паветра ўначы складзе плюс 1—6 градусаў, у дзённы час паветра прагрэецца да 7—14 градусаў цяпла.

А ў бліжэйшыя выхадныя будзе яшчэ па-вераснёўску цёпла, днём да 20 градусаў цяпла.

Дарэчы, дрэннае надвор'е сіноптыкі абяцаюць толькі ў першай палове наступнага тыдня, у другой — прагназуюць пацяпленне.

ТРЫВОЖНА!

## *Пуцін — Парашэнку*

Уладзімір Пуцін заявіў, што калі б ён хацеў, то за два дні яго войскі былі б не толькі ў Кіеве, але і ў Рызе, Вільнюсе, Таліне, Варшаве і Бухарэсце.

Пра гэта гаворыцца ў рэзюмэ замежнапалітычнай службы ЕС паводле вынікаў візіту прэзідэнта Еўрапейскай камісіі Барозу ў Кіеў, піша нямецкая газета Suddeutsche Zeitung.

Як паведамляе выданне, Пуцін сказаў пра гэта прэзідэнту Украіны Пятру Парашэнку. Парашэнка ў сваю чаргу перадаў змест размовы прэзідэнту Еўрапейскай камісіі Жазэ Мануэлю Барозу.

*"Калі б я хацеў, то за два дні нашы войскі былі б не толькі ў Кіеве, але і ў Рызе, Вільнюсе, Таліне, Варшаве і Бухарэсце",* — заявіў Пуцін Парашэнку.

Акрамя таго, як паведамляе нямецкае выданне, Пуцін параіў Парашэнку *"не надта спадзявацца на ЕС"*, бо ён пры жаданні можа *"паўплываць і заблакіраваць прыняцце рашэння на ўзроўні Еўрапейскага савета"*.

Як кажуць — без каментарыяў.

ЗАКУЛІССЕ

# Плюралізм у адной галаве



Чым гэта патлумачыць, пакуль незразумела, але на працягу двух дзён намеснік старшыні ўрада Пётр Пракаповіч зрабіў дзве супрацьлеглыя заявы.

Раніцай 17 верасня афіцыйныя СМІ са спасылкай на Пятра Пракаповіча паведамілі, што беларускія ўлады, хутчэй за ўсё, адмовяцца ад падвышэння з наступнага года ставак падатку на дадатковую вартасць і падаходнага падатку.

*"Пры разглядзе законапраектаў кожны раз абмяркоўваецца шмат варыянтаў. Магу сказаць, што павелічэнне ПДВ і падаходнага падатку абмяркоўвалася, але рашэнне пра гэта не прынята і, я думаю, прынята не будзе",* — працытавалі журналісты Пятра Пракаповіча. І ўдакладнілі, што, на думку віцэ-прэм'ера, варта не павышаць падаткі для прадпрыемстваў, а ствараць умовы, каб прадпрыемствы рабіліся больш плацежаздольнымі.

Раніцай 18 верасня са спасылкай на ўсё таго ж Пракаповіча з'явілася зусім іншая навіна.

*"Рашэнне аб павелічэнні падаходнага падатку, хутчэй за ўсё, будзе прынята. Пра гэта заявіў журналістам намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Пётр Пракаповіч. Як паведамляе БЕЛТА, паводле яго слоў, рашэнне аб павышэнні падаходнага падатку з 12% да 13% абмяркоўвалася і, хутчэй за ўсё, будзе прынята. "Усе грошы будуць арыентаваны на сям'ю, на падтрымку дзяцей",* — запэўніў віцэ-прэм'ер".

Хочацца верыць, што ў гэтым Пракаповіч не падмане і дзецям хоць нешта перападзе.

**Алена НОВІКАВА.**

У СУСЕДЗЯЎ

## *У Кіеве можа паўстаць трэці Майдан?*

*У Кіеве зноў пачаліся пратэсты. Гэтым разам — супраць падпісання Закона аб асаблівым статусе так званых Данецкай і Луганскай народных рэспублік.*




Украінцы, якія выходзяць да будынкаў Вярхоўнай Рады і Адміністрацыі прэзідэнта ў Кіеве, называюць Закон здрадай і заклікаюць Пятра Парашэнку альбо перагледзець Закон, альбо рыхтавацца да трэцяга Майдана. Сярод пратэстуючых шмат перасяленцаў з Данецка і Луганска, вайскоўцаў і прадстаўнікоў палітычнай эліты.

Вось, напрыклад, што кажа савецкі палітвязень і тройчы народны дэпутат Украіны **Сцяпан Хмара**: *"Гэта акт капітуляцыі, Парашэнка аддае Расіі частку Данбаса пад поўны кантроль. І больш таго, вешае на Украіну фінансаванне той часткі, якую ён збіраецца перадаць Расіі. Гэта злачынства, і Парашэнка здараднік Украіны, і павінен быць пакараны за тое, што робіць. Не так страшная акупацыя, як капітуляцыя".*

Паводле слоў самога прэзідэнта Украіны, рашэнне аб наданні рэгіёну асаблівага статусу звязана з немагчымасцю весці ваенныя дзеянні з прычыны аслаблення арміі. Самі вайскоўцы з такой пазіцыяй не згодныя і таксама выходзяць на акцыі пратэсту.



ГЛАС НАРОДА

## *Чвэрць мільёна долараў на кішэнныя выдаткі. Гэта нармальна?*

У Беларусі здарыўся чарговы карупцыйны скандал. Пры атрыманні хабару супрацоўнікі Камітэта дзяржаўнай бяспекі затрымалі дырэктара ААТ "Ружаны-Агра".

Як паведаміла прэс-служба КДБ, дырэктар вядомай гаспадаркі быў затрыманы пры атрыманні 25 тысяч долараў ЗША за спрыяльнае вырашэнне пытання па набыцці па завышаным кошце ва ўласнасць гаспадаркі будынка, які належыць адной з камерцыйных структур. Агульная сума так званага "адкату", паводле інфармацыі КДБ, складала 50 тысяч долараў ЗША. Акрамя таго, падчасператрусу па месцы жыхарства "героя" было выяўлена і канфіскавана 232 тысячы долараў ЗША і 10 тысяч еўра.

Ці не ўпершыню спецслужбы правялі затрыманні па класічнай схеме. Арыштаваны не толькі той, хто браў грошы, але і той, хто даваў, і той, хто выступаў пасярэднікам. Іншымі словамі, прайшліся па ўсім ланцужку, што ў беларускай рэчаіснасці бывае вельмі рэдка.

*"У дачыненні да затрыманых Упраўленнем КДБ Рэспублікі Беларусь па Брэсцкай вобласці ўзбуджана крымінальная справа па ч.4 арт.210 (крадзеж шляхам выкарыстання службовых паўнамоцтваў) і ч.3. арт.430 (атрыманне хабару службовай асобай, якая займае адказнае становішча, у асабліва буйным памеры) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь,* — удакладняе прэс-служба КДБ. — *Да затрыманых прыменена мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту".*

Паведамленнямі пра арышты за хабар ужо нікога не здзівіш, але справа дырэктара ААТ "Ружаны-Агра" ў інтэрнэце стала адной з тых навін, якія абмяркоўваюцца больш за ўсё. Абмеркаванне ідзе актыўна. З яго вынікае, што нашы людзі добра разумеюць, як на самай справе ў нашай краіне вядзецца барацьба з карупцыяй.

***Ast1967:***

*"Аказваецца, не бядуе наша сельская гаспадарка".*

***Privet13:***

*"Нармальна! Ледзь скаланулі — і адразу 250 тысяч баксаў выпалі. А які аўтамабіль у гэтага "моцнага гаспадарніка"? А хатка? А дзеці выпадкова не ў Еўропах вучацца? Замежныя рахункі маюцца? Колькі палюбоўніц у Эміратах выгуляў? А ў сваякоў якое фінансавае становішча? Выпадкова не бядуюць? Не скажу пра дадзены канкрэтны выпадак, але такога плана дзеячы "важаць" ад 1 мільёна долараў. Скрадзеных у нас. А потым усялякія "разумнікі" прапануюць за ўваход у паліклініку з пенсіянераў адбіраць па 4000 рублёў — грошай жа ў бюджэце не хапае".*

***Іван Яфімаў:***

*"У Беларусі з карупцыяй змагацца проста, элементарна. Было б толькі жаданне. Бярэш і правяраеш усіх уладальнікаў дамоў плошчай звыш 200 квадратных метраў. Пагалоўна! І двое з трох акажуцца зладзеямі або хабарнікамі. Гарантую на 146 працэнтаў".*

***Brown bear:***

*"Ніколі не разумеў, як гэта ў чыноўніка, што зарабляе 2—3 тысячы долараў у месяц (хай нават 5 тысяч), можа быць домік за дватры мільёны долараў. І гэта нікога не здзіўляе".*

***Мікалай Фёдараў:***

*"Ён, напэўна, адзін з тых, што крычаць пра спісанне даўгоў калгасам і атрыманне новых танных крэдытаў, інакш усё ў сельскай гаспадарцы лясне".*

***Tkach_2011:***

*"Талковы і разумны спецыяліст. Няхай удача дапаможа яму выкруціцца".*

***Бутрым С.:***

*"А як яшчэ яны могуць жыць, калі іх усё жыццё на дзяржпадпітцы трымаюць і з рукі гаспадара кормяць? Вось яны і нахабнічаюць: у дзяржавы можна красці, яна ж багатая".*

***Leman2003:***

*"Ды ў нашай краіне ўсе зладзеі: нехта большы, нехта меншы. Немагчыма сёння ездзіць на іншамарцы і будаваць дом — з нашымі заробкамі. А ў нас такіх умат: дастаткова праехаць па ўскрайку любога горада — адны будоўлі. Перш чым чыноўнікаў таптаць, на сябе паглядзіце і падлічыце, колькі вы з працы цягнеце".*

***Таўлая:***

*"А ўсё пачыналася, нагадаю, са скрыні цвікоў Станіслава Шушкевіча. За 20 гадоў давесці краіну да такой карупцыі — гэта жах нейкі".*

**Ігар МАРОЗАЎ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
19 ВЕРАСНЯ 2014 г.

СПЕЦЫЯЛЬНАЯ КАМАНДЗІРОЎКА

# «Пельмені не замовляйте...»

***Больш за паўгода ўвага грамадскасці прыцягнута да падзей ва Украіне. Зразумела, што для таго, каб даведацца, як і чым жывуць звычайныя людзі гэтай суседняй краіны, трэба пабачыць усё на свае ўласныя вочы і паразмаўляць з прадаўцамі, афіцыянтамі, кіроўцамі і проста многімі іншымі жыхарамі таго ці іншага ўкраінскага горада, мястэчка.***

## «Мы памолімся за вас»

...А сёмай раніцы на Львоўскім вакзале людзей няшмат. Аграмаднай вывескай сустракае рэстаран з каларытнай назвай "Сала" і абяцаннем нейкай неверагоднай колькасці гатункаў гэтага традыцыйнага ўкраінскага прадукту. А яшчэ — парачка міліцыянераў з аўтаматамі і ў бронекамізэльках ды мірны паўсонны люд з чамаданамі і авоськамі.



Пакуль трамвайчык вязе ў цэнтр, кідаецца ў вочы вялікая колькасць дзяржаўных сцягоў, вывешаных па горадзе. Яны паўсюль — на ўваходах у пад'езды, на вокнах кватэр, на вітрынах крамаў, на помніках (нават антычны Пасейдон таксама трымае сцяг Украіны). Такое ўражанне, што гараджане святкуюць перамогу нацыянальнай зборнай ці нейкае дзяржаўнае свята. Але ў "логаве бандэраўцаў", як часам называюць Львоў расійскія прапагандысты, нічога не святкуюць. Наадварот. У меню кавярні, у якую заходжу паснедаць, прамым тэкстам напісана, што дадаткова да рахунку будзе налічана адна грыўня — на карысць Нацыянальнай гвардыі. Гэта і быў першы напамін пра вайну.

Другі напамін бачу літаральна праз некалькі метраў ад кавярні: на плошчы ўсталяваны намёт, каля якога на стале стаіць празрыстая скрыня. Побач — партрэты тых, хто загінуў, абараняючы сваю краіну на ўсходзе. Шмат жывых кветак, запаленыя свечкі... Запытваю ў дзяўчат: "*Абменнікі яшчэ не адчыніліся, таму грыўняў я не маю. Ці магу пакласці долары?*" У адказ чую: "*Канешне, можна класці любую валюту, нават расійскія рублі*".

Апусціла грошы, пастаяла моўчкі, у думках падзякавала тым, хто сёння змагаецца за сваё (і наша!) права не быць малодшым братам вялікай імперыі, а калі ўжо адыходзіла, мяне паклікалі. Мужчына разгарнуў вялікі журнал са спісамі. Нягледзячы на раніцу, пад сённяшняй датай ужо было напісана некалькі імён. "*Назавіце сваё імя, калі ласка*", — папрасіў мужчына. "*Навошта?*" — запытваю. "*Мы памолімся за вас*".





...На рагу плошчы стаяць некалькі хлопцаў. Звяртаюся да іх па-беларуску:

***— Не падкажаце, дзе тут можна набыць сувеніры?***

На тварах з'яўляюцца дабразычлівыя ўсмешкі:

*— Вы з Беларусі?*

— ***Так. Па-ўкраінску не размаўляю, але разумею****.*

*— О-о-о!!! Сябры!!! Мы вас любім! Шкада, што ад вас беларускую мову рэдка пачуеш, але нічога. А якія сувеніры вас цікавяць?*

— ***Зразумела, што на цяперашнюю тэматыку****.*

*— О, гэтага "пуйла" — колькі хочаш: і майкі, і запальнічкі, і бранзалеты, і налепкі на машыну, і бірулькі, і магніцікі, і кубкі...*

На развітанне адзін хлопец спытаў:

*— А як у вас людзі ставяцца да нашых падзей? Няўжо ўсім па барабану? Вы хоць разумееце, што калі нас "раздзярбаняць", то з вамі нават і ваяваць не стануць? Праглынуць і не падавяцца.*

***— Ды ў нас з-за Украіны такія жарсці кіпяць, што ў некаторых сем'ях ледзь не да разводаў дайшло. Даўнія сябры не размаўляюць адзін з адным: хто — за Расію, хто — за Украіну. Прыкладна пяцьдзясят на пяцьдзясят.***

*— Цікава... У нас вайна, а вы там на кухнях б'ецеся... Хаця і ў нас напачатку такое было, але ўжо ўсе стаміліся адзін аднаго пераконваць. Ужо не да гэтага. Жыццё само ўсё расстаўляе па сваіх месцах. Столькі людзей загінула і колькі яшчэ загіне...*

Літаральна праз некалькі хвілін бачу, якога поспеху дасягнуў сувенірны бізнес. Вялікім попытам карыстаюцца вышыванкі. Мужчыны, жанчыны, старыя, маладыя набываюць іх не як сувенір, а як паўсядзённую вопратку. Акрамя *"пуйла"* (прадукцыя на тэму Уладзіміра Пуціна — самі разумееце, якога накірунку) прадаецца шмат кубкаў, маек, налепак з гербам Украіны ці надпісамі накшталт "Слава Украіне! Героям слава!". Людзі купляюць, носяць, падкрэслена пазначаюць сябе як украінцаў.

## «Галаву маскаля» з'есці не давялося

Ёсць у Львове месца, якое ўжо абрасло легендамі. Палохаюць, што рускім туды лепш не хадзіць — паб'юць. Гэта знакаміты рэстаран "Крыіўка" — стылізаваны пад схованку, у якіх у адпаведныя часы хаваліся байцы УНА-УНСО. Людзі дасведчаныя падказваюць, дзе ён знаходзіцца. Звычайная падваротня. Шыльды няма. Грукаем у зачыненыя дзверы. Адчыняе чалавек з аўтаматам і глядзіць у вочы:

— Гасло?!

Мы не разгубіліся:

*— Слава Украіне!*

— *Героям слава*! — адказвае мужчына і прама на прыступках налівае кожнаму ўкраінскай "медавухі". Выпіў — прахадзі ў залу. Фатаграфавацца сябе ён забараняе. — *Ведаеце, мяне ўжо рускія і так расшукваюць...*

У рэстаране, якім расійская прапаганда палохае даверлівых грамадзян, усё зроблена з адпаведнай доляй гумару. Напрыклад, у меню пазначана: "*Паважаныя наведвальнікі,* ***пельмені не замаўляйце.*** *Можам прапанаваць вам варэнікі".* Варэнікі, дарэчы, аказаліся надзвычай смачнымі. Іх можна было замовіць на любы густ — з бульбай, з вішняй, з макам, з грыбамі, з фасоляй...

Паўсюль — карціны быту байцоў УНА-УНСО. На Заходняй Украіне іх лічаць героямі. Кажуць, што ваявалі гэтыя людзі за незалежную Украіну. І фрыцаў ненавідзелі, і савецкую ўладу не прымалі.

Знаходзячыся ў самым "логаве" львоўскіх нацыяналістаў — "Крыіўцы", мая сяброўка загаварыла па-руску. І што? Ды нічога. Ставіліся да нас прыязна. Шкла ў варэнікі не падсыпалі, сіропу ў боршч не налілі. Адным словам, не такое страшнае гэта месца, як яго малююць. Больш скажу: зусім не страшнае. І стравы "Галава маскаля" ў меню гэтай установы няма — хлусня ўсё. Хаця расійскія СМІ і пра такое пісалі.

...Бяром курс на Моршын. Дарога дрэнная. Затое прыемна ўражваюць акуратныя, збольшага двухпавярховыя дамы ўздоўж шашы, роўна пакошаныя газоны, разнастайныя кветкі, дыхтоўныя хлявы. На лузе адмыслова ўсталяваныя агароджы, каб каровы не выходзілі з пашы. Дарэчы, каровы ўкормленыя, дагледжаныя, чыстыя...

У Моршыне ў краме прыгожая маладая прадаўшчыца Аксана кажа, што раней у горад штодня прыязджала ў сярэднім па 3000 чалавек, а цяпер калі ва ўсіх санаторыях і гатэлях набярэцца крыху больш за 2000, дыкгэта будзе добра.

*— Раней беларусаў было шмат,* — расказвае Аксана*. — А цяпер людзі баяцца ехаць. На расійскіх каналах брэшуць, што тут у нас "Правы сектар" аўтобусы спыняе, рабуе, забівае... Мы думалі, што нармальныя людзі ў такое ніколі не павераць. Але ж многія, мабыць, паверылі. Запалохалі людзей.*

***— Ну а вы як жывяце?***

*— Так і жывём. Колькі каштуе адзін дзень вайны?.. Толькі падумайце! Хочуць нашу Украіну на калені паставіць, знішчыць усю эканоміку. Я хоць усяго толькі тэхнікум скончыла, але і адукацыі асаблівай не патрэбна, каб гэта зразумець.*

На папулярным бальнеалагічным курорце, здаецца, усё, як і мае быць: ціха, спакойна, паветра такое чыстае, што ў ім нібы купаешся. Людзі ходзяць з нейкімі пакетамі ды бутэлькамі: на працэдуры, за вадой, у сталовую... Усё, як на звычайным курорце, і ўсё ж не так. Толькі праз пару дзён разумею, што не так: ніводнага разу не давялося пачуць смех, нават пабачыць усмешкі на тварах людзей. Нейкая напружанасць, стомленасць, трывога. Мір і вайна спалучыліся разам у адным горадзе, у людзях, у сем'ях.

На цэнтральнай плошчы каля помніка Тарасу Шаўчэнку стаяць партрэты забітых, у тым ліку — партрэт нашага земляка Міхаіла Жызнеўскага, які загінуў на Майдане. Увесь час процьма жывых кветак, запаленыя свечкі... А адразу за імі ў Доме культуры гучыць музыка, мільгае ілюмінацыяй дыскатэка. Жыццё і смерць... Гора і весялосць... Усё пераблыталася, усё разам...

Усе размовы так ці інакш збіваюцца на палітыку.

*— Ой, вы з Беларусі?! Мая зямлячка!* — кідаецца жанчына прама на вуліцы. — *Я ж сама з Гомеля, але ўжо больш за трыццаць гадоў тут жыву. І вось цяпер мяне там, у Расіі, ды некаторыя і ў Беларусі, называюць "бандэраўкай", "фашысткай"...*

Разгаварыліся. Аказалася, Галіна нядаўна наведвала сваякоў у Гомелі. Расказала:

— У *мяне два браты. Адзін дальнабойшчык, ездзіць па замежных камандзіроўках па ўсёй Еўропе. Калі вяртаецца ў Гомель, то глядзіць расійскія тэлеканалы, інтэрнэту не мае. Дык вось ён усіх нас, хто тут жыве, фашыстамі абзывае, запэўнівае, што гэта я нічога не разумею. Ну што сказаць?! Я тут жыву і нічога не бачу?! Як ён пачаў мне расказваць, што мы тут робім, дык у мяне ажно мову адняло. Чаму ён верыць не мне, а расійскай прапагандзе? Разумны ж хлопец, не на хутары сядзіць, а па Еўропе ездзіць... Толькі толку з таго...*

*А вось другі мой брат — інжынер. Працуе на заводзе. Дык ён усё разумее і вельмі мне спачувае. Казаў, што баіцца, каб войскі расійскія не пайшлі на Кіеў. І гэта ў адной сям'і. Браты пасварыліся. Іх жонкі забаранілі нават узгадваць Украіну, каб хаця не пабіліся.*

Намеснік галоўнага ўрача комплексу "Моршынкурорт" **Мікола ФУРМАНЮК** пачаў размову пра галоўную праблему — недахоп адпачываючых, але ўрэшце ўсё звялося да палітыкі.

*— Да нас прыязджалі з усяго былога СССР. Беларусаў заўсёды шмат было. Цяпер значна зменшылася колькасць. Запалохваюць народ, каб сюды не ехалі. Раней загадзя пуцёўкі набывалі, чарга была, а цяпер можна ў любы момант прыехаць і ўладкавацца. Прыязджаюць да нас з Польшчы, з Германіі, цяпер адпачываюць ды лечацца ў асноўным свае, украінцы. Праўда, азербайджанцы сталі актыўна пуцёўкі набываць. Ёсць некалькі чалавек з Данбаса.*

— ***Там цяпер сапраўдная вайна. А тут яны маюць нейкі адпаведны статус перасяленцаў?***

*— Ды хто як. Шмат хто з мясцовых на іх абураецца. Ну сапраўды, сядзіць 35-гадовы дзяцюк, чакае, пакуль там вызваляць яго горад. А нашы маладыя хлопцы павінны ехаць і ваяваць замест яго? А хто дапамагаў "замуціць" тыя ганебныя рэферэндумы і ДНРы з ЛНРамі ўсялякімі? Ці змаглі б якія "зялёныя чалавечкі" тут у нас, на Львоўшчыне, вывесіць расійскія сцягі і ўсур'ёз прапанаваць народу адкалоць кавалак тэрыторыі? Ніколі! А тыя ўсё замуцілі і цяпер уцякаюць, хочуць перасядзець вайну. Не, мы такога не разумеем. Больш скажу: не ўсё так проста з Данбасам. Нашы людзі прама запытваюцца: "За каго ваяваць?! За здраднікаў, якія не маюць Радзімы?!" Так што не проста ўсё. І ёсць адчуванне, што надоўга.*

Сапраўды не проста. Тое, што адбылося, не ўкладваецца ў галовах людзей, парушыліся ўяўленні пра дабро і зло, пра тое, хто сябра, хто вораг. Кіроўца мікрааўтобуса, што вёз нас на вакзал, з горыччу вымавіў: "*Маёй маці 92 гады. І яна прызналася: "Калі б мне хто раней сказаў, што Расія будзе ваяваць з Украінай, а Германія будзе нас бараніць, я ні за што не паверыла б...*"

І я не паверыла б. Але зараз адбываецца сапраўды так.

## Дай ім Бог!

Развітваючыся са Львовам, прайшліся па цэнтральных вулачках. Унікальная архітэктура, храмы, у якіх можна пачуць і рускую, і ўкраінскую, і нямецкую, і нават кітайскую мову. Ля кожнага — дошкі аб'яў, на якіх вялікімі літарамі напісана: "МАЛІЦЕСЯ ЗА УКРАІНУ!".

Амаль у кожным саборы ў дзень майго наведвання Львова ішлі вянчанні. Гэта і зразумела — верасень, нядзеля... Здзівіла, што многія нявесты на сваё вяселле выбралі не традыцыйныя белыя сукенкі, а нацыянальныя вышыванкі. Ды і вясельны вэлюм замянілі на чырвоныя макі, сінія васількі, белыя рамонкі. Маладыя, прыгожыя... Ідзе вайна, але ж яны ўсё роўна мараць толькі пра мір і шчасце... Дай ім Бог!

**Любоў ЛУНЁВА.**

*Мінск—Львоў—Моршын.*

АФІЦЫЙНА

## *Заява намесніка прэс-сакратара Дзяржаўнага дэпартамента ЗША Мэры Харф**

Роўна 15 гадоў таму ў Беларусі зніклі былы намеснік прэм'ер-міністра і вядучы апазіцыйны палітык Віктар Ганчар, а таксама паспяховы бізнесмен Анатоль Красоўскі. У апошні раз гэтых дваіх мужчын бачылі, калі яны вярталіся дадому з саўны. Паводле наяўных звестак, пасля гэтага іх выкралі. Іх целы так і не былі знойдзены.



Яны рызыкавалі сваімі жыццямі і светлым будучым, каб супрацьстаяць рэпрэсіям. Іх выкраданне з'яўляецца вялікай стратай не толькі для іх блізкіх, але і для ўсяго беларускага народа. Калі б яны сёння былі з намі, Віктару Ганчару споўнілася б 56 гадоў, а Анатолю Красоўскаму было б 62 гады.

Сёння мы таксама ўзгадваем Юрыя Захаранку, былога міністра ўнутраных спраў, які выйшаў у адстаўку ў знак пратэсту супраць злоўжыванняў улад, а затым знік 7 мая 1999 г., а таксама Дзмітрыя Завадскага, аператара Расійскага тэлеканала ГРТ, які знік 7 ліпеня 2000 г. неўзабаве пасля вяртання з Чачні, дзе ён здымаў дакументальны фільм.

Праведзенае ўладамі расследаванне іх знікнення да гэтага часу не дало ніякіх істотных вынікаў, так і не адказаўшы на ўсе пытанні іх сем'яў. Згодна з беларускім заканадаўствам, тэрмін даўнасці па расследаванні іх знікненняў заканчваецца ў гэтым годзе.

Мы па-ранейшаму глыбока занепакоены лёсам гэтых чатырох мужчын і заклікаем беларускія ўлады падоўжыць тэрмін даўнасці, а таксама старанна і адкрыта расследаваць гэтыя знікненні. Сем'і зніклых заслугоўваюць справядлівасці.

Мы зноў заклікаем беларускія ўлады неадкладна і безумоўна вызваліць усіх палітычных зняволеных і аднавіць іх палітычныя правы. Мы цвёрда верым, што будучыня Беларусі можа быць больш светлай, стабільнай і квітнеючай толькі пры большай адкрытасці грамадства і большай дэмакратыі.

** Неафіцыйны пераклад заявы.*

РЕДКИЕ ПРОФЕССИИ

# «Консьержи в подъездах нужны»

*В нашей жизни огромное количество людей являются наблюдателями. Они невольно знают о нас больше, чем мы сами. Их работа незаметна до тех пор, пока они не перестанут ее делать. Речь пойдет о не самой популярной в Беларуси профессии — консьерже в жилом доме. Нам стало интересно, кто эти люди, почему они выбирают эту работу и с чем сталкиваются в свои обычные рабочие будни?*

Для сравнения realt.by решил побеседовать с консьержами из обычного дома по улице Алибегова и из элитной постройки — комплекса "У Троицкого" по улице Сторожевской. Обе консьержки — женщины пенсионного возраста, всю жизнь они реализовывали себя в других сферах. Два разных дома, отличающиеся условия работы, но одинаковое отношение к жильцам.



Ирина Саламатина.

Начнем с **Ирины Саламатиной**, которая трудится консьержем в доме по улице Сторожевской. Как внутри, так и снаружи эта новостройка выглядит достойно и солидно. Холл больше напоминает входную часть в дорогой ресторан, чем в подъезд.

*— Я главный консьерж всех подъездов этого дома, то есть кроме своего подъезда я еще занимаюсь оформлением документации всех остальных. Консьерж — это хозяин подъезда. В мои обязанности входит смотреть за порядком, помогать жильцам, раздавать почту, вести график посещений.*

Ирина Леонидовна работает два дня через два по 12 часов с перерывом на обед. Перекусить она может только на рабочем месте, еду нужно брать с собой. Условия для работы хорошие: есть чайник, микроволновка, холодильник — все, что нужно. График работы женщину устраивает.

*— Работа у меня творческая, так как я могу оформлять подъезд, украшать его, а это для меня важно. Плюс это общение с людьми. Также мне нравится, что здесь все новое.*



Жанна Иванова.

*Безусловно, я не сижу 12 часов на одном месте. По всему подъезду здесь расставлены цветы, за которыми нужно ухаживать. Также возле дома есть клумбы, за которыми я смотрю. Кроме этого, я люблю делать икебаны, поделки. Если все сделано и везде порядок, то я могу заняться своим хобби. Мои работы я расставляю по подъезду. Например, в Новый год я украсила его весь. Люди благодарили меня за это, так как у них поднималось настроение, когда они заходили в подъезд. Но все это я делаю, если есть время. Я должна быть на рабочем месте всегда, так как многие жильцы заходят в дом не с главного входа, а поднимаются на лифте с паркинга.*

*Консьержи в подъездах нужны. Во-первых, никто чужой зайти не сможет, во-вторых, здесь всегда будет чисто. Очень много молодых людей хотят попасть на крышу. Представьте, что стало бы с подъездом, если бы не было консьержа?*

По мнению Ирины Леонидовны, самое главное в этой работе — умение общаться с людьми. Все жильцы разные, найти общий язык с каждым непросто, а ведь нужно, чтобы всем было приятно.

Сама она по образованию учитель начальных классов, музыки и пения. Последние 14 лет работала в Университете физической культуры, где занимала должность начальника учебно-методического центра. После выхода на пенсию брать на работу ее никто не хотел из-за возраста. Сюда же взяли без проблем.

*— Мне приятно, что здесь живут очень культурные, воспитанные люди. Они все очень интересные, я с ними в хороших отношениях. Каждый раз, когда вижу кого-нибудь из жильцов, мысленно говорю: "Спасибо". Моя зарплата меня полностью устраивает, пожаловаться я на нее не могу. Рада, что у меня в принципе есть работа, учитывая мой возраст.*

Наша вторая героиня — **Жанна Иванова**. Она работает консьержем в относительно новом доме по улице Алибегова. Внутри все довольно просто. Рабочее место Жанны Владимировны представляет собой небольшое помещение с окном, где стоят стол, стул, монитор, на который выводится картинка с камер видеонаблюдения, и микроволновка.

*— По профессии я педагог. 35 лет преподавала в среднеобразовательном учебном заведении в Пружанах. Это очень красивый и ухоженный городок. У меня там был свой двухэтажный дом. Сын и дочь учились в Минске. После остались в нем жить. Чтобы как-то помочь детям с жильем, мы с мужем решили продать дом и тоже переехали в столицу, где я живу уже 13 лет. Вначале я не работала, помогала дочери с ребенком. Внук повзрослел, и я решила начать чем-то заниматься. Знакомые предложили работу консьержем в этом доме.*

*В мои обязанности входит вести журнал посещений, то есть я фиксирую все визиты гостей жильцов, нянь, медицинских работников — всех, кто в доме не живет. Также я должна раздавать жильцам "жировки", контролировать расход горячей воды каждой квартирой и сообщать данные в бухгалтерию. Еще одной важной обязанностью является следить за порядком в подъезде и во дворе. Я контролирую работу уборщиц. Если в подъезде перегорела лампочка, сломался лифт или еще что-то, то вызываю специалистов. Также я поливаю клумбы возле подъезда.*

*Я постоянно общаюсь с детьми из моего подъезда. Они, когда идут из школы домой, обязательно мне рассказывают, что у них было в школе, какие оценки они получили, мне это приятно.*

Жанна Владимировна уверена, что люди чувствуют необходимость в консьерже. Лишь единицы не понимают разницы. В доме есть несколько человек, которые не платят за услуги консьержа, но при этом успешно ими пользуются. Все остальные жильцы знают, что порядок и чистота в подъезде — это заслуга Жанны Владимировны и ее коллег.

Режим работы приемлемый: с 8 до 20 часов два дня через два. Получается, что консьерж здесь находится, пока жильцов нет дома. Обеденного перерыва нет, еду нужно брать с собой.

*— Я всегда должна быть на своем месте. Максимум, что я могу себе позволить на работе, это почитать. Сидеть в теплые дни на улице тоже не приветствуется. Зарплата у меня небольшая, ниже средней по городу.*

*Гости жильцов реагируют на меня нормально и тому, что нужно записаться, не сильно удивляются. Каких-то из ряда вон выходящих ситуаций при мне здесь никогда не было. Несколько раз в подъезд пытались попасть цыгане, чтобы пройти по квартирам и попросить одежду, с ними могут возникнуть конфликты.*

Жильцы доверяют консьержу. Они могут оставить ключи от квартиры, так как кто-то должен прийти и в нее попасть, деньги, чтобы кому-то передать. Жанна Владимировна старается помочь, ведь всякое в жизни бывает.

*— Ссор между соседями практически нет. Конфликтов из-за громкой музыки или ночных праздников пока не было. Возникали разногласия, когда одна семья с маленьким ребенком уже заселилась и живет, а другая только начинает делать ремонт в квартире. Из-за шума ребенок просыпается, родители негодуют. Мы разговаривали все вместе, договаривались, чтобы в определенные часы днем, когда дети спят, ремонтные работы приостанавливались. Бывает, когда в подъезд заносят строительные материалы, остается грязь. Я считаю, что, если человек насорил, он должен убрать за собой. Я слежу за тем, чтобы именно так и было. Я люблю порядок как дома, так и на работе.*

**Карина ПОПКОВА.**

ЭНТУЗИАСТЫ

## *На воды Немана спущен корабль эпохи викингов*

Трое парней из Лиды за полгода построили на собственной судоверфи малую боевую ладью "Ятвяг". Длина судна 13,25 метра, ширина — 3 метра, а команда — 14 человек + рулевой. Это первый корабль эпохи викингов в Беларуси!

Ребята рассказывают, что при реконструкции ладьи опирались на многие источники. В качестве герметика использовали паклю и березовый деготь. Дерево обжигали и пропитывали олифой. Все максимально приближено к исторической реконструкции. Детали ладьи скреплены заклепками.

Ладью, к слову, уже и опробовали на водах Немана. При помощи трактора ее привезли к реке, и судно — вопреки мнениям недоброжелателей и критиков — село на воду идеально. Впереди еще установка весел, мачты и растяжка ее тросами. И парус!

21 сентября на берегу Немана вблизи поселка Березовка стартует фестиваль "Из варяг в греки". Ожидается, что на фестиваль приедут лодки из России и Украины. Вместе флот пройдет по большим стоянкам, отметившись тремя фестивалями в Березовке, Мостах и Гродно. На стоянках будут оборудованы лагеря — живая выставка раннесредневекового быта. Подробности можно узнать на сайте **ponemanu.by**.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**



СІТУАЦЫЯ

# Выкінутыя таленты



У Мінску навучальны год пачаўся са скандалу. За тры дні да 1 верасня іншагароднім навучэнцам музычнага каледжа пазванілі з адміністрацыі ўстановы і паведамілі, каб тыя не разлічвалі сёлета пасяліцца ў інтэрнаце. У выніку 80 юных талентаў апынуліся перад невырашальнай праблемай: з аднаго боку, чыноўнікі кажуць, што будынак інтэрната знаходзіцца ў аварыйным стане і засяляцца туды нельга, з другога — іншага годнага памяшкання дзецям не прапанавалі.

Інтэрнат музычнага каледжа месціцца на другім паверсе інтэрната Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, што на скрыжаванні вуліц Кісялёва і Старавіленскай. Самы цэнтр! Будынак хоць і знаходзіцца ў атачэнні "сталінак", але, па сучасных мерках, амаль што новы — яго пабудавалі ў 1972 годзе. "Аварыйны стан" знешне не праглядаецца ну ніяк! Наадварот, уражвае бездакорная чысціня, нават у калідоры падлога і сцены абкладзены пліткай. Пакойчыкі ўтульныя, сучасныя шклопакеты, новая сантэхніка, у кожным — не толькі мэбля, але і фартэпіяна. Ёсць сталовая і адмысловыя пакойчыкі, напрыклад, пакой псіхалагічнай разгрузкі. Як высветлілася, студэнтаў кансерваторыі, якія займалі верхнія паверхі, ужо перасялілі ў новы будынак у Пятроўшчыну. А вось пра навучэнцаў гімназіі-каледжа чамусьці забыліся. Бацькі не могуць зразумець, чаму чыноўнікі не наведалі той самы другі паверх інтэрната, дзе ўжо быў зроблены рамонт. Яны ставяць пад сумнеў вынікі заключэння экспертаў і просяць паказаць ім праект, які пацвердзіў бы, што ў будынку сапраўды будзе рабіцца капітальны рамонт.

На бацькоўскім сходзе, які адбыўся 1 верасня без удзелу чыноўнікаў, зачыталі тры варыянты рашэння сітуацыі, прапанаваныя Міністэрствам культуры:

1.забраць дакументы і з'ехаць вучыцца па месцы жыхарства;

2.самастойна шукаць месца сваім дзецям у Мінску;

3.напісаць заяву аб прадастаўленні індывідуальнага плана для дыстанцыйнага навучання па агульнаадуацыйных прадметах па месцы жыхарства, але са штодзённымі паездкамі ў Мінск на спецыялізаваныя ўрокі па спецыяльнасці, сальфеджыа і г.д.

Адміністрацыя каледжа паведаміла бацькам, што ёсць магчымасць пасяліць дзяцей у інтэрнат сямейнага тыпу для дарослых на вуліцы Бялінскага. Але без магчымасці харчавання і заняткаў музыкай. Яшчэ адно верагоднае памяшканне для адсялення — месца начлегу турыстаў на вуліцы Лук'яновіча (нешта кшталту піянерлагера — спальнае месца з ложкам і тумбачкай).

Маці стыпендыята спецыяльнага прэзідэнцкага фонду па падтрымцы таленавітай моладзі **Наталля ХАТЫЛЁВА** з Гродна паведаміла "Народнай Волі":

*— Атрымліваецца, што ў каледжы могуць цяпер нармальна вучыцца толькі тыя дзеці, якія жывуць у сталіцы. Іншагароднія з аддаленых рэгіёнаў, вядома ж, штодня не могуць ездзіць у Мінск на заняткі. А наконт арэнды кватэры ці пакоя, то якія бацькі пойдуць на тое, каб 14—15-гадовага падлетка пасяліць асобна. Як ён будзе харчавацца? У інтэрнаце ж была сталовая, дзеці жылі па раскладзе. Да таго ж заняткі на музычным інструменце доўжацца гадзінамі. Дый і тое ж фартэпіяна паспрабуй зацягні на нейкі паверх! А колькі каштуе сёння арэнда жылля ў сталіцы?! Чыноўнікаў і гэта не засмуціла. Сказалі пра нейкую кампенсацыю памерам 450 тысяч рублёў. Пазаўчора пачалі абзвоньваць бацькоў. Палохалі, пагражалі, што адлічаць сына ці дачку з каледжа. А нам аб'яднацца таксама цяжка, бо мы ж усе з розных гарадоў. Нават на сход усім разам сабрацца праблематычна.*

**Аляксей ПРАКУДОВІЧ** з Барысава, бацька студэнткі-першакурсніцы, таксама абураны:

*— Незразумела стаўленне да таленавітай моладзі. Палова з гэтых дзяцей — лаўрэаты міжнародных конкурсаў. Яны ж здабываюць славу нашай дзяржаве! Ім патрэбны адпаведныя ўмовы для заняткаў. Музыцы пачынаюць вучыцца з 5-гадовага ўзросту і да 23 гадоў бесперапынна. Цяпер фактычна разбурана сістэма падрыхтоўкі навучэнцаў з правінцыі на карысць тых дзяцей, якія жывуць у сталіцы. Разбураецца сістэма пераемнасці пакаленняў у галіне музыкі і падрыхтоўкі нацыянальных кадраў для музычных калектываў. Такое адчуванне, што папросту нехта паклаў вока на будынак у самым цэнтры сталіцы ў элітным квартале. Будынак суседнічае з трыма амбасадамі — расійскай, украінскай і амерыканскай, пяць хвілін пешшу да плошчы Перамогі. Ну, спатрэбіўся будынак, дык зрабілі б нармальныя ўмовы хаця б на той жа вуліцы Лук'яновіча — пасялілі дзяцей па 3 чалавекі, а не па 8 у адзін пакой. Забяспечылі б ім магчымасць займацца на інструментах. А так што? Проста выкідваюць!*

Цікава, што такая ж доля напаткала навучэнцаў з Кітая. Ім таксама не прадаставілі іншага месца пражывання, прыдатнага для заняткаў музыкай. Гэта пры тым, што дагэтуль на сайце Акадэміі музыкі паведамляецца, што іншагароднім студэнтам гарантаваны інтэрнат...

Варта адзначыць і вось яшчэ што: так званы аварыйны будынак цяпер не зусім пустуе. Там спакойна рэпеціруе Міхаіл Фінберг са сваім калектывам — Нацыянальным акадэмічным канцэртным аркестрам Беларусі. Выснова напрошваецца сама сабой — альбо будынак не такі ўжо і аварыйны, альбо чыноўнікам не шкада маэстра Фінберга і яго славутага калектыву. І дзяцей не шкада.

**Любоў ЛУНЁВА.**

**Калі вярстаўся нумар, стала вядома, што ўвечары невядомыя прыйшлі ў будынак на другі паверх і пачалі збіваць нядаўна пакладзеную плітку і сайдынг. Хто аддаў загад прыдаць памяшканню непрывабны выгляд, не вядома.**

ПРАГНОЗ

# Пад канец года курс долара складзе 10.860 рублёў

*Такі прагноз зрабіў фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра "Альпары" ў Мінску **Вадзім Іосуб**. На яго думку, спрагназаваць курс долара ЗША вельмі лёгка.*

*"Можна звярнуць увагу, што апошнім часам Нацыянальны банк вельмі выразна таргетуе курс долара да беларускага рубля, па сутнасці, ажыццяўляючы прывязку. І кожны месяц долар, пачынаючы з лютага, даражэе роўна на 110 рублёў. Менавіта гэта дазваляе зрабіць досыць дакладны прагноз. Калі такая палітыка Нацбанка працягнецца (а няма фактаў, якія сведчаць, што яна зменіцца), пад канец года долар будзе каштаваць 10.860 беларускіх рублёў",* — сказаў Іосуб.

Пры гэтым ён адзначыў, што курс еўра і расійскага рубля *"значна менш прадказальныя, таму што гэтыя курсы будуць залежаць ад таго, як яны будуць вагацца адносна долара на валютным рынку".*

ПАДЛІЧАНА...

# Падаткі: хто колькі плаціць

*Найбуйнейшым падаткаплацельшчыкам, які далёка абышоў бліжэйшых сапернікаў, стаў ААТ "Газпром трансгаз Беларусь". Традыцыйныя беларускія падаткаплацельшчыкі адышлі на задні план.*

Паводле дадзеных МПЗ, першае месца па велічыні выплачаных падаткаў займае ААТ "Газпром трансгаз Беларусь", якое за паўгода заплаціла ў казну 4,446 трлн рублёў, што складае 6,2% ад усіх даходных паступленняў у бюджэт.

Другое месца зноў жа заняло расійскае ЗТАА "Лукойл Беларусь", якое папоўніла беларускі бюджэт на 2,235 трлн рублёў, што складае 3,1% ад усіх даходаў.

Трэцяе месца дасталася ААТ "Нафтан" — 2,208 трлн рублёў выплачаных падаткаў (3,1%).

На чацвёртым месцы размясцілася ААТ "Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод", якое заплаціла 2,166 трлн рублёў падаткаў, або 3% ад усіх даходаў бюджэту.

Пятае месца атрымала ААТ "Гродзенская тытунёвая фабрыка "Нёман" — 1,654 трлн рублёў выплачаных падаткаў (2,3%).

ААТ "Беларуськалій" змагло заняць толькі шостае месца, хоць раней, да крызісу з "Уралкалием", заўсёды знаходзілася ў тройцы лідараў. Прадпрыемства пералічыла ў бюджэт падаткаў на 836,234 млрд рублёў (1,2%).

Сёмае месца атрымала ТАА "Тытунь-інвест" — 747,821 млрд рублёў падаткаў (1%).

Восьмае месца дасталася ААТ "Мінск Крышталь" — 688,378 млрд рублёў падаткаў (1%).

ЗАТ "Мінскі завод вінаградных він", якое заплаціла ў бюджэт 677,305 млрд рублёў, заняло дзявятае месца.

РУП "Мінскэнерга", якое заплаціла 593,219 млрд рублёў, замкнула дзясятку найбуйнейшых падаткаплацельшчыкаў краіны.

ДИПЛОМАТИЧЕСКИЙ КЛУБ

*Ян Жунг Мо, Чрезвычайный и Полномочный Посол Республики Корея:*

# «Красный женьшень эффективен, но я предпочитаю спорт»



Встреча с Чрезвычайным и Полномочным Послом Республики Корея господином Ян Жунг Мо проходила в посольстве в комнате с шикарным видом на Комсомольское озеро Минска. Над водой плыл легкий сентябрьский туман, который делал пейзаж за окном утонченным, изысканным. Природе за окном была созвучна картина кисти народного художника Беларуси Леонида Щемелева, которая висит на стене гостевой приемной посла Кореи. Хотелось философствовать. Но разговор начался с насущных проблем двух стран — с перспектив экономического сотрудничества. Хотя в дальнейшем мы попытались развязать строгие дипломатические галстуки.

**— Господин посол, как вы оцениваете двустороннее экономическое сотрудничество, его перспективы?**

— После установления дипломатических отношений в 1992 году Корея и Беларусь постоянно развивают сотрудничество в различных областях, однако желаемый потенциал еще не достигнут. За 13 лет объем двусторонней торговли находится на уровне 100 млн долларов США. В марте текущего года в Минске было открыто наше торговое представительство KOTRA, теперь, надеюсь, будет увеличен объем товарооборота между двумя странами, а также облегчится выход корейских компаний на белорусский рынок.

Для обеих стран перспективным является сотрудничество в сфере информационных технологий, поскольку Корея обладает самым высоким в мире уровнем развития информационных технологий, а Беларусь — навыками разработки программного обеспечения. В частности, сейчас Беларусь заинтересована во взаимодействии с Кореей в области построения электронного правительства. С этой целью в самое ближайшее время представители Национального агентства информационного общества Республики Корея планируют открыть в Парке информационных технологий "Центр информационного доступа". Корейская компания Hynix, которая занимается производством полупроводников 3-го поколения, будет сотрудничать с белорусскими IT-компаниями.

**— Недавно в Минске закончился трехдневный фестиваль корейской культуры. К слову, подобный культурный десант уже не первый в нашей столице. С некоторых пор мы иногда имеем возможность смотреть корейские фильмы, выступления ваших лучших танцевальных коллективов на концертных площадках города. Но знаний о вашей стране у нас, белорусов, все равно пока недостаточно. Вы согласны?**

— Пожалуй. Чтобы повысить осведомленность о корейской культуре у белорусских граждан, которые практически не имеют возможности с ней соприкоснуться лично, а также с целью поддержания постоянного интереса к корейскому языку и культуре у студентов и молодежи, наше посольство проводит различные культурные мероприятия.

В первом полугодии 2014 года в Минске успешно прошел корейский кинофестиваль и конкурс корейской популярной музыки K-POP. А буквально на прошлой неделе наше посольство совместно с Корейским фондом на протяжении трех дней, с 12 по 14 сентября, провело мероприятие под названием "Корейский осенний фестиваль", который в общей сложности посетили около 3000 студентов и просто горожан. Мне кажется, все пришедшие получили опыт от соприкосновения с различными аспектами корейской культуры: посмотрели художественные фильмы, выступления K-POP-групп и танцевального коллектива "Ариран", стали зрителями интеллектуальной викторины "Golden Bell", попробовали блюда корейской кухни. А совместное выступление корейских би-боев, поппинг-группы и коллектива традиционных ударных инструментов в концертном зале "Минск" вызвало у белорусских зрителей просто восторженные эмоции. Хочу заранее анонсировать и концерт 7 октября в Республиканском дворце культуры профсоюзов по случаю Национального праздника Республики Корея — там состоится выступление корейского ансамбля традиционной музыки, на которое мы приглашаем всех, кто интересуется корейской культурой.

Корея и Беларусь расширяют обмены и в сфере образования. С целью популяризации корейского языка начиная с 2008 года в Беларуси ежегодно проводится конкурс устных выступлений. В первом полугодии 2014 года был открыт "Центр корейского Института короля Седжона", а в ведущих белорусских вузах — корейские центры "Korea Corner", где ведется обучение белорусских студентов корейской культуре и языку. Также реализуются стипендиальные программы, предоставляющие белорусским студентам и магистрантам возможность обучаться в Корее.

**— Господин посол, а как лично вы чувствуете себя в Беларуси? Может быть, вам трудно было привыкнуть к нашему климату, еде, бытовым традициям?**

— С дипломатической миссией в Беларусь я прибыл в конце июня прошлого года. Мое первое впечатление — Беларусь тихая, чистая и гостеприимная страна. Стояла замечательная погода, на улице было свежо и ясно, поэтому никаких проблем с адаптацией у меня не возникло.

В Беларуси, как и в Корее, отчетливо выделяются четыре времени года, ваша страна очень красива благодаря своим густым лесам, десяткам рек и озер. Конечно, белорусская кухня отличается от корейской, но в целом она европейская, а европейскую кухню я люблю. А поскольку здесь еще можно приготовить такие корейские блюда, как кимчи, то сложностей с едой не испытываю.

**— Кстати, и в вашей стране, и у нас существует вековая традиция ходить в баню. Вы любите париться, нашли себе баню по вкусу в Минске?**

— Корея — страна, сочетающая в себе множество культурных особенностей. Одна из них — культура коллективизма, в связи с которой в последнее время в Корее стали очень популярны чимчильбаны. (В классическом чимчильбане от 6 до 9 парилок с различными температурами от 50 до 90 градусов. Есть ледяные сауны, кислородные, огненные, есть и так называемые парильные комнаты, к примеру, соляные, глиняные, аметистовые. В парилке корейской бани одновременно могут находиться и мужчины, и женщины, потому что все посетители одеты в шорты и майки. А вот бассейны для представителей разных полов отдельные, потому что после сауны корейцы предпочитают плавать раздетыми. — **Е.М.**) Наш чимчильбан очень популярен у иностранцев. Он полезен для здоровья, а также это отличный шанс весело провести время: попариться с друзьями или семьей, потом всем вместе поесть тут же, в кафе.

Лично я европейской сауне, где, по-моему, немного душно, предпочитаю восточную баню: там можно снять стресс, погрузившись после тяжелого дня в горячую воду. К сожалению, в Беларуси я пока не имел возможности сходить в традиционную баню. Однако у нас в резиденции есть финская сауна, так что зимой, когда погода достаточно суровая, я иногда с удовольствием там все-таки парюсь.

**— Семья для корейца понятие почти священное, верно? Можно спросить: вы помогаете своим родителям? Это вообще принято в Южной Корее — помогать пенсионерам, старикам?**

— Я думаю, что независимо от стороны света, от Запада или Востока, основной ячейкой общественных отношений является семья. Почитание родителей с древних времен очень важная ценность в Корее. До 40—50-х годов XX века, живя в одном доме с родителями большой семьей, корейцы совершенно естественно относились к ним с уважением и почитанием.

Однако в последнее время я с сожалением замечаю, что в молодежной среде постепенно снижается важность таких понятий, как "родители" и "семья". Да и лично я не был таким уж почтительным сыном, однако, став отцом и вырастив детей, с сожалением осознал свое неправильное отношение к родителям.

2000-е годы во всем мире, в том числе и в Корее, характеризуются такой особенностью, как старение общества (более 7% от общей численности населения составляют люди возрастом от 65 лет), и в будущем эта тенденция сохранится. Проблема старения нации является одной из важнейших в современном обществе, поэтому сейчас, чтобы решить ее, молодому поколению, я считаю, необходимо с пониманием и участием отнестись к построению пенсионной и других систем социальной поддержки пожилых людей.

**— Ваши близкие, кстати, уже приезжали в Беларусь? Что вы им показывали в нашей стране?**

— Как бы то ни было, сравнивать Беларусь и европейские страны с их огромным количеством исторических достопримечательностей нельзя, однако все мои знакомые, посетившие вашу страну, отмечают очарование сохранившейся природы, красоту ландшафта. Моим близким, посещавшим Беларусь, я рекомендовал обязательно увидеть Октябрьскую площадь и старый город Минска, съездить в Мирский и Несвижский замки.

**— Как вы думаете, чем национальный характер белорусов отличается от характера ваших соотечественников? Какие хотя бы три главных отличия между нами вы назвали бы?**

— Об особенностях национального характера рассуждать сложно, однако с уверенностью можно сказать, что есть отличия в области этикета на Западе и Востоке, и они связаны с разницей в обычаях и истории.

В восточной традиции большое значение уделяется иерархическому порядку, центральное место занимают родственные связи, семейные отношения. В западной же традиции основной акцент делается на частную жизнь и равенство людей.

Можно сказать и про отличия, вызванные разницей в опыте ведения рыночной экономики капитализма и экономики социализма. Современные корейцы проявляют активность и иногда даже такую черту, как агрессивность, чего в белорусах почти нет. Эта активность заключается в инициативном и хозяйственном подходе к решению проблем, что, кажется, здесь почти не характерно.

Впрочем, я считаю, что национальный характер находится в постоянном изменении. Сейчас корейцы делают все "быстро-быстро", но всего 100 лет назад ценилось как раз обратное — неспешность. Если послушать традиционную музыку, то можно отметить неторопливость и протяжность восточных мотивов. Но за последнее столетие в корейской истории было много трудностей: и господство внешних сил, и братоубийственная война, когда само существование было наивысшей ценностью. И таким образом, мне кажется, и возникла необходимость быстро реагировать на вызовы, быстро решать все дела.

**— Южная Корея славится достижениями своей медицины. А еще больше корнем жизни — красным женьшенем. Можно поинтересоваться, вы пользуетесь корнем жизни?**

— Красный женьшень является одной из разновидностей корейских лекарств, его получают из сушеных корней женьшеня. Он очень эффективен для замедления процессов старения, при профилактике заболевания раком, улучшения кровообращения, защиты иммунитета, а также профилактики остеопороза, благодаря чему он пользуется большой популярностью в мире.

Я и сам, когда устаю, употребляю женьшень. Но считаю, что для укрепления здоровья лучше делать гимнастику или заниматься спортом, нежели принимать лекарственные препараты, даже такие, как красный женьшень.

**— Достижения вашей электроники поражают. Можно поинтересоваться напоследок, какой фирмы у вас сотовый телефон, господин посол?**

— Я пользуюсь первоклассной по своим характеристикам продукцией корейских компаний LG, а также Samsung. Да, я пользуюсь двумя мобильными телефонами одновременно, при выборе каждого из них я учитывал наличие необходимых для меня функций.

**Елена МОЛОЧКО.**

ПРЯМАЯ РЕЧЬ

*Дмитрий ШЕВЦОВ, депутат Палаты представителей:*

# «Нужна частичная оплата посещений поликлиники»

***Не так давно заместитель премьер-министра Анатолий Тозик выступил с предложением о введении лимита бесплатных обращений в госполиклиники. Эта идея широко обсуждалась в обществе, и мнения разделились примерно наполовину. О том, как впоследствии может выглядеть система частичной оплаты и насколько сильно она ударит по кошельку пациентов, в преддверии открытия осенней сессии белорусского парламента рассказал корреспонденту БЕЛТА один из инициаторов этого предложения — член Постоянной комиссии Палаты представителей Национального собрания Беларуси по здравоохранению, физической культуре, семейной и молодежной политике Дмитрий Шевцов.***

**— Дмитрий Евгеньевич, как давно вы начали продвигать инициативу о введении частичной оплаты медицинских услуг, и почему она возникла?**

— У нас в стране около 2% населения, мягко говоря, слишком часто приходят в поликлинику. Это достаточно большое количество пациентов, потому что есть люди, которые приходят к врачу каждый день или через день. В 2007 году, еще будучи главным врачом 34-й центральной районной клинической поликлиники Минска, я впервые вносил предложение о частичной оплате посещений. Позднее об этом было заявлено на уровне вице-премьера. В этом новшестве нет ничего фатального. В 2008 году я ездил в Швецию, был в Америке, где изучал особенности работы разных систем здравоохранения. Швеция в вопросе медобслуживания вышла на передовые позиции буквально за 25 лет, и это напрямую связано с введением частичной оплаты. Пациент, который начал доставать копейку из своего кармана, автоматически начал беречь свое здоровье.

**— А какая, по вашему мнению, должна быть оплата одного посещения? Не ударит ли она по карману пациентов?**

— В свое время я предлагал следующее. С учетом того, что в поликлиниках мы имеем полную закрытую компьютерную базу — электронную регистратуру — и каждому пациенту выдается талончик на бумажном носителе, где прописана необходимая информация, можно просто продавать этот талончик пациентам по стоимости одного проезда в общественном транспорте. Сейчас стоимость поездки составляет 4 тысячи белорусских рублей. Деньги небольшие, можно сказать, символические, особенно для тех, кто не злоупотребляет услугами врачей, и вряд ли они могут разорить пациентов.




Другой вариант — сделать в Беларуси гарантированное число бесплатных посещений в год. Например, их может быть 11, а дальше при необходимости можно будет идти к врачу за свой счет. Но в таком случае оплата уже будет не символическая, а более солидная. Ведь что такое 11 бесплатных посещений в год? Это фактически прийти на прием один раз в месяц. Объясните мне: зачем? У нас в стране медицина закрепилась на хорошем уровне, и необходимости в этом нет.

В той же Швеции работа врачей организована следующим образом. Пациент, приходя на прием, платит фиксированную сумму в 12 евро за консультацию помощника врача, 15 евро — за консультацию врача-терапевта. Первых 10 посещений, невзирая на группу инвалидности и уровень трудоспособности, необходимо оплачивать. Сами шведы говорят, что для них 12 евро — символическая плата. Но когда пациент достает из своего кармана деньги, он задумывается, стоит ему просто так идти на прием. Возникает закономерный вопрос: "А может быть, достаточно того, что доктор порекомендовал мне раньше?" А вот уже после 10-го посещения в Швеции плата снимается. Таким образом в этой стране поддерживают ту группу населения, которой необходимо часто бывать у врача. Например, это касается инвалидов.

Каждый из нас хоть раз в жизни был в частном медицинском центре. Как правило, придя в частный центр, пациент внимательно слушает, что говорит доктор, и даже берет его советы на карандаш. Отношение к государственной медицине у нас, к сожалению, иное. Пациент может позволить себе не запоминать рекомендации доктора, а спустя пару дней опять взять талон на прием, чтобы ему напомнили сказанное раньше, ведь это бесплатно. Вот почему нужна частичная оплата посещений: пациент, который придет к врачу 10 раз за год, заплатит всего 40 тысяч бел. рублей и даже не почувствует расхода этих денег, а вот пациент, который берет талон 200 раз в год, скорее всего, задумается, стоит ли ему в очередной раз встречаться с медицинским сотрудником.

**— Не получится ли так, что введением оплаты вы отпугнете тех пациентов, которые и так редко ходили к врачу? Мы хотим выявлять заболевания на ранних этапах, но в то же время создаем барьеры для людей…**

— Это не барьеры, а упорядочение. Барьер — это недоступность чего-то в силу каких-то причин. Например, нет врача или плата за прием неподъемная для среднестатистического белоруса. Здесь барьера как такового нет, потому что стоимость одного талончика на общественный транспорт ни для кого не может быть преградой. Такие деньги для посещения терапевта найдет любой.

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

# Как будут считать бюджет прожиточного минимума?

***“Народная Воля” сообщила, что с 17 февраля изменен подход к определению бюджета прожиточного минимума. Не могли бы вы пояснить, что конкретно меняется и можно ли надеяться, что этот показатель станет выше?***

***И.И.Романовская, Минск.***

В состав бюджета прожиточного минимума по-прежнему входят два минимальных набора. Первый — это продукты питания, второй — непродовольственные товары и услуги. Прожиточный минимум рассчитывается отдельно для каждой социально-демографической группы населения. Всего их шесть — трудоспособное население; пенсионеры; студенты; дети до 3 лет; дети от 3 до 6 лет; дети от 6 до 18 лет. Единственная корректировка коснулась группы “студенты” — раньше под ней понимались студенты-дети, теперь от привязки к возрасту студента решено отказаться.

Как пояснили в Министерстве труда и соцзащиты, изменения в расчетах коснулись наборов непродовольственных товаров и услуг, которые теперь будут включаться в прожиточный минимум как фиксированная доля в размере 77% от стоимости минимального набора продуктов питания.

Фиксированная доля определена на основании статистической информации о фактических потребительских расходах малообеспеченных домашних хозяйств за период с 2009 года по первый квартал 2014-го включительно.

Для определения фиксированной доли непродовольственных товаров и услуг учитывались расходы малообеспеченных домашних хозяйств на одежду, обувь, ткани; мебель, предметы бытового назначения; личные услуги, предметы личного пользования; жилищно-коммунальные услуги; здравоохранение; услуги образования; услуги общественного транспорта; связь.

Кстати, список потребляемых малообеспеченными домашними хозяйствами услуг, включенных в методику подсчета прожиточного минимум, расширен — теперь учитываются также расходы на связь, здравоохранение и образование. Ранее эти услуги не входили в установленный набор материальных благ и услуг прожиточного минимума.

А вот группа продовольственных товаров сокращена — из нее исключены алкоголь и табак “как противоречащие определению прожиточного минимума”. Также больше не учитываются расходы на культуру, отдых, спорт, питание вне дома, расходы на приобретение, содержание и ремонт личного транспортного средства “как соответствующие потребительскому бюджету более высокого уровня достатка”.

Как отмечает Минтруда, новый метод определения стоимости непродовольственных товаров и услуг, входящих в прожиточный минимум, позволяет исключить излишнюю детализацию норм потребления, а также “более гибко и оперативно реагировать на изменение наиболее значимых тенденций в потребительском настроении населения”.

Как и прежде, бюджет прожиточного минимума будет утверждаться четыре раза в год — в ценах последнего месяца каждого квартала: в ценах декабря — с 1 февраля по 30 апреля; в ценах марта — с 1 мая по 31 июля; в ценах июня — с 1 августа по 31 октября; в ценах сентября — с 1 ноября по 31 января.

Однако полномочия устанавливать размеры БПМ переданы от правительства Министерству труда и социальной защиты. Именно оно будет устанавливать размеры БПМ на четвертый период.

Как отметил в комментарии журналистам экономист Исследовательского центра ИПМ **Глеб Шиманович**, БПМ является способом определения критерия нуждаемости и определения абсолютной бедности. Речь идет о средствах, теоретически необходимых для выживания.

Бюджет прожиточного минимума как социальный норматив используется для анализа и прогнозирования уровня жизни населения; оказания государственной адресной социальной помощи малообеспеченным гражданам (семьям); обоснования минимальных государственных социально-трудовых гарантий.

От БПМ напрямую зависят размеры единовременных пособий.

Глеб Шиманович согласился, что подход, который применялся ранее при подсчете минимальных расходов на непродовольственные товары и услуги, был трудоемок с точки зрения административных расходов и негибок.

Что касается нового подхода, то у эксперта остаются сомнения в обоснованности высчитанной фиксированной доли непродовольственных товаров и услуг в размере 77%. Глеб Шиманович считает некорректным брать за основу расчетов только расходы малообеспеченных домашних хозяйств в силу искаженной структуры потребления в этой социальной группе.

*“Нет также информации о том, учитывалась ли шкала эквивалентности при определении показателя 77%,* — отметил Глеб Шиманович. — *Имеется в виду, что представители разных социальных групп имеют неодинаковые потребности. Условно говоря, один кухонный стол нужен и семье из четырех, и из одного человека”.*

Кроме того, считает экономист, имеет значение, как часто будет пересматриваться коэффициент. Ведь сейчас цены на услуги растут быстрее, чем на продовольственные товары. Если этот процесс сохранится и в дальнейшем, то расходы семей на продовольственные товары относительно расходов на услуги снизятся, и БПМ уменьшится. Хотя в условиях достаточно высокой белорусской инфляции должен, наоборот, увеличиваться.

**БЮДЖЕТЫ ПРОЖИТОЧНОГО МИНИМУМА-2014**

| | С 1 февраля по 30 апреля 2014 | С 1 мая по 31 июля 2014 | С 1 августа по 31 октября 2014 |
|---|---|---|---|
| В среднем на душу населения | 1 128 070 | 1 212 470 | 1 343 420 |
| Для трудоспособного населения | 1 265 340 | 1 357 440 | 1 505 230 |
| Для пенсионеров | 959 270 | 1 031 330 | 1 143 760 |
| Для детей-студентов | 1 148 850 | 1 236 240 | 1 357 330 |
| Для детей в возрасте от 6 до 18 лет | 1 228 880 | 1 326 710 | 1 458 230 |
| Для детей в возрасте от 3 до 6 лет | 1 245 490 | 1 328 760 | 1 647 110 |
| Для детей в возрасте до 3 лет | 954 830 | 1 027 090 | 1 097 000 |

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

# «Сто гадоў таму». Постскрыптум

Гэтымі днямі наведаў наш Нацыянальны музей гісторыі і культуры — дзеля выставы з незвычайнай, інтрыгуючай назвай “Рэчы паміж жыццём і смерцю”. Пераканаўся на ўласныя вочы, што прывезеная са Швецыі, са стакгольмскага Музея арміі ўнікальная ў сваім родзе выстава вартая, безумоўна, увагі, цікавая ў шмат якіх адносінах — і ў тэхнічных, і ў пазнавальных, і ў ідэйна-эстэтычных.

Пра якія менавіта “рэчы” ідзе размова? Што ўяўляюць сабой экспанаты выставы? Уся музейная зала запоўнена вялікім мноствам прадметаў салдацкага рыштунку, у прыватнасці франтавога жыццябыцця. Выстава сапраўды, як паведамляецца ў анатацыі, “складаецца з тысячы дробных прадметаў, неабходных для выжывання ў акопах... Фота родных, лыжкі, карты для гульні, прылады для галення, музычныя інструменты, лекі, лісты з дому, словам, рэчы, якія сведчаць, што і на вайне ёсць будні, падчас якіх салдат гатуе, бавіць час, сумуе, жартуе, мыецца, паліць”. Стваральнікі выставы звяртаюць увагу і на такі характэрны момант: вайсковы рыштунак самых розных краін і розных войнаў XX стагоддзя, але гэта адны і тыя ж рэчы, якія сімвалізуюць усё тую ж агульначалавечую розніцу паміж жыццём і смерцю.

Пашкадаваў, што не пазнаёміўся з выставай крыху раней. Да таго, як узяўся перачытваць кнігу Максіма Гарэцкага “На імперыялістычнай вайне. Запіскі салдата...” і пісаць пра яе (артыкул пад загалоўкам “Сто гадоў таму”, змешчаны нядаўна ў “Народнай Волі”). Пашкадаваў, бо іначай зярнуў бы болей увагі на тое, як, з якой праўдзівай дакладнасцю паказваюцца на старонках кнігі якраз гэтыя самыя “рэчы паміж жыццём і смерцю”. Ва ўсёй сваёй “красе” прысутнічаюць тут, у “Запісках салдата...”, і славутыя жаўнерскія лыжкі (“...аблізвалі і насілі іх за халявамі ў ботах, пры потных анучах”); і карты (“Кідаем усё і пры свечцы гуляем у новым акопе ў карты, акоп — як дом”); і прылады для галення (вунь адзін “батарэец” хваліцца сваім “галяком”, ганарыцца, што “ўмее сам сабе галіць шыю, нават намыльваць і нават без люстра”); і колькі разоў згаданыя ў кнізе махорка ды цыгарка (“Аднак я з радасцю, што не адзін ужо, прысеў ля яго і са смакам зацягнуўся цыгаркаю з яго махоркі”); і чаканыя лісты з дому (“у мяне радасць: прыйшлі ад родных і знаёмых доўгачаканыя лісты”). А чаго вартая ўжо адна гэтая “дужая” (слова аўтара) каманда: “Абамунічвай!”. Яна ж, канешне, ад слова “амуніцыя”, ад панятку “салдацкі рыштунак”, ці зноў-такі “рэчы паміж жыццём і смерцю”...

Прызнацца, калі знаёміўся з выставай, то не-не ды ўзнікала ўражанне, што адзін з галоўных яе ініцыятараў, калекцыянер-энтузіяст Турб’ёрн Ленскуг чытаў твор “На імперыялістычнай вайне” і прымаў да ведама, улічваў, адбіраючы для паказу экспанаты, салдацкі досвед Максіма Гарэцкага, яго акопны дзённік. Гіпатэтычна магчымая рэч. Ужо нават па той простай прычыне, што гуманны, антываенны пафас твора беларускага аўтара агульначалавечы, як і пафас выставы “Рэчы паміж жыццём і смерцю”.

ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

Кошт у еўра
<9000
<6000
<3000
<1000
БЯСПЛАТНА

# А ў іх — бясплатна

Нам так часта расказваюць пра клопат дзяржавы аб нас, беларусах, што проста не магу ўтрымацца ад таго, каб не даслаць гэтую “карцінку” ў газету. На ёй кожная краіна ЕС пазначана розным колерам — у залежнасці ад кошту навучання ў ВНУ. Прыглядзеўшыся, кожны зразумее, што ў большай частцы Еўрапейскага Саюза вышэйшая адукацыя бясплатная альбо яе кошт не перавышае 1000 еўра. Нагадаю, што ў Беларусі кошт адукацыі на факультэтах таго ж Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта сёлета складае ад 1200 да 1700 еўра. І гэта пры тым, што нашы даходы і даходы еўрапейцаў нават параўноўваць нельга.

Вось такі “клопат”, вось такая “бясплатная адукацыя”, гарантаваная Канстытуцыяй.

Нехта скажа, што ўсё ж такі бясплатная адукацыя ў Беларусі ёсць, але я катэгарычна не згодны з такім сцвярджэннем. Абавязковае размеркаванне, абавязак студэнта-бюджэтніка адпрацаваць два гады на нізкааплатнай працы — гэта і ёсць тая плата, якую “бюджэтнікі” ўносяць дзяржаве. А вось у Еўропе, якую нашы ўлады любяць бэсціць, усё інакш...

**Сяргей ДЗЮКАЎ.**

*Мінск.*

КРИК О ПОМОЩИ

# Спасите зрение моей дочери!

Обращается к Вам жительница г.Витебска Елена Леонидовна Овчинникова. Я прошу Вас помочь моей дочери Александре Овчинниковой. Ей нужна операция в клинике “Dardenne” в Германии на двух глазах. Диагноз моей девочки: ревматоидный увеит обоих глаз, катаракта обоих глаз и начинающаяся глаукома на левом глазу.

Проблемы со здоровьем у Сашеньки начались из-за сделанной ей в трехлетнем возрасте прививки АКДСМ. Узнали мы об этом на приеме у врача, когда проходили медкомиссию для школы.

По образованию я инженер-землеустроитель, но после того, как с ребенком случились эти проблемы, в 2002 году вынуждена была оставить работу и посвятить себя дочери.

В 2002 году мне удалось отвезти Сашу на лечение в Германию, где в клинике “Dardenne” были проведены успешные операции. Тогда нам помог фонд “Помощь детям мира” в Ганновере.

После приезда из клиники девочка обучалась четыре года на дому. Затем пошла в обычную школу. В 2013 году успешно сдала ЦТ, прошла по конкурсу на бюджетное отделение юридического отделения ВГУ имени П.М.Машерова. Это была наша с ней победа, потому что стать юристом — это цель дочери, ее мечта с 7-го класса. Но на первом курсе Саша заболела атипичной пневмонией, декан факультета продлил сессию на месяц, но дочка вместе со всеми студентами в срок сдала экзамены и получила повышенную стипендию.

Все мои силы направлены на лечение дочери, но заболевание носит серьезный характер, оперированный глаз потихоньку закрывается спайками, зрение упало, нужна операция. На неоперированном глазу повысилось давление, что приводит к глаукоме.

Врачи в Витебске и в Минске только наблюдают за процессом и разводят руками, они не решаются на радикальные меры, ссылаются на то, что у них нет опыта по проведению таких операций, опасаются последствий. А в немецкой клинике это все успешно делают.

Умоляю Вас помочь моей дочери спасти зрение! Я так хочу, чтобы она стала первоклассным специалистом и приносила помощь людям. Самой мне таких денег не собрать. Тем более мы с дочерью остались вдвоем, муж, не выдержав трудностей, ушел из семьи. У меня нет даже квартиры, продав которую я могла бы оплатить лечение. Живем мы в общежитии, которое мне дали от работы. Горе и отчаяние охватили душу. Очень надеюсь на Вашу помощь.

**С уважением —**

**Елена Леонидовна ОВЧИННИКОВА.**

**P.S.** Для тех, кто решит помочь Александре Овчинниковой, сообщаем, куда можно отправлять средства.

Благотворительные счета открыты в филиале №200 — Витебском областном управлении ОАО “АСБ Беларусбанк” — г.Витебск ул.Ленина, 10Б

Белорусские рубли — Транзитный счет №3819382103002 на благотворительный счет №000006 в отделении 200/108.

Карта “Беларусбанка” — 9112 0000 3166 6429 срок действия: 03/19.

Кошелек EASY PAY — 00227249.

Можно пополнить баланс номера МТС — +37529-812-41-03 или набрав на телефоне *363*375298124103*сумма#вызов.

Доллары США — Транзитный счет №3819382100018 на благотворительный счет №000023 в отделении 200/108.

Евро — Транзитный счет №3819382100018 на благотворительный счет №000006 в отделении 200/108.

Российские рубли — Транзитный счет №3819382100018 на благотворительный счет №000005 в отделении 200/108.

Назначение платежа: для зачисления на благотворительные счета Овчинниковой Елены Леонидовны для сбора средств для лечения дочери Овчинниковой Александры Александровны.

ФОТАФАКТ

**Недалёка ад вёскі Дзяражычы Лоеўскага раёна Гомельшчыны падчас рыбалкі на Дняпры мужчына вылавіў сома масай 58 кілаграмаў. Для лоўлі такой буйной здабычы выкарыстоўваўся метад пад назвай “джыга” (спосаб лоўлі буйных рыб з дапамогай “танцуючай” прынады). Барацьба з сомам працягвалася цэлую гадзіну, пасля чаго рыба здалася, і яе ўдалося выцягнуць на бераг. Пасля традыцыйных здымкаў са здабычай сома... адпусцілі.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# У Крыму паболела хамства, крыміналу і бяспраўя

*Грамадзянін Беларусі Аляксандр Канопліч, які ў Еўпаторыі здае адпачывальнікам кватэру, якая яму належыць, падзяліўся сваімі ўражаннямі пра падзеі ва ўкраінскім Крыме пасля яго далучэння да Расіі.*

— Як вядома, Еўпаторыя здаўна лічыцца галоўнай дзіцячай здраўніцай Крыма, — расказвае Аляксандр. — Цёплае мора з пясчанымі мелкаводнымі пляжамі, а таксама сухое, з водарам стэпавых траў паветра заўсёды прываблівалі людзей ў гэты чарнаморскі курорт.

Мая двухпакаёўка — у двухпавярховым шматкватэрным доме, што месціцца ў 200 метрах ад мора. Прычым кватэра знаходзіцца на першым паверсе і выходзіць у дворык з празрыстай стрэшкай. Амаль усе даходы ад здачы двухпакаёўкі ў наём і шмат асабістых высілкаў уклаў у добраўпарадкаванне кватэры, каб людзі маглі ў ёй камфортна адпачываць. Калі ўлічыць усе гэтыя фактары, дык сёлета не вельмі згубіў у сваім кватэрным бізнесе, хоць у параўнанні з мінулым летам колькасць адпачывальнікаў у Еўпаторыі знізілася амаль у чатыры разы. Вось чаму многія жыхары горада ў гэты сезон увогуле не змаглі здаць свае кватэры, бо не было каму...

Да захопу Крыма расіянамі (а я лічу, што гэта быў захоп) мой “Масквіч”-пікап спакойна месціўся ля нашага дома. Калі ж ён каму-небудзь замінаў ці спакушаў каго-небудзь, дык аўто папросту каталі па нашым вялікім двары. Верагодней за ўсё, гэта былі дзеці, а можа, і зладзеі, якія спрабавалі скрасці машыну. Аднак праз некалькі тыдняў пасля сумнавядомага рэферэндуму аб статусе Крыма, што адбыўся 16 красавіка бягучага года, мой “Масквіч” проста цынічна разрабавалі, а затым спалілі. Пры гэтым адкруцілі цудоўны руль фірмы “Паршэ” з чырвонага дрэва і замест яго, каб паздзекавацца, накруцілі вялізную гайку. Спрабавалі абрабаваць і маю кватэру, але нешта перашкодзіла. Толькі садралі дзвярную ручку. Усё гэта рабілася ў двары шматкватэрнага дома няспешна, з упэўненасцю ў поўнай беспакаранасці. Калі ж я прыехаў у Еўпаторыю і стаў на гэты конт апытваць суседзяў, высветлілася, што ніхто нічога не ведае, не чуў і не бачыў. І да гэтай пары ніяк не магу дабіцца ўзбуджэння крымінальнай справы па факце рабунку і знішчэння майго аўтамабіля.

Пасля гэтага злачынства на тым месцы ў двары, дзе раней стаяла маё аўто, з’явіўся самабуд — летняя кухня. Яе пабудавалі мае суседзі, што займаюцца пахавальным бізнесам. Прычым зрабілі гэта без папярэдняй дамоўленасці з іншымі жыльцамі. Больш за тое, у будынку суда гэтыя людзі пагражалі мне фізічнай расправай. Яны зыходзяць з таго, што я замежны грамадзянін, жыву адзін, а таму безабаронны. Трэба зазначыць, што факт самабуду негатыўна адбіўся на планах маіх і суседзяў. Справа ў тым, што мы стварылі таварыства саўладальнікаў шматкватэрнага жылога дома, каб бараніць яго ад зносу, падтрымліваць будынак у належным стане і самім, без пасярэднікаў, разлічвацца за камунальныя паслугі. А зямлю, на якой узведзены дом, мы планавалі перавесці з юрысдыкцыі гарсавета ў калектыўнае карыстанне. Аднак незаконны і самавольны захоп зямлі суседзямі разбурыў нашы планы...

Яшчэ адзін паказальны выпадак, што сведчыць пра цынічнае хамства і непавагу да людзей. Кабета з Масквы, якая называе сябе доктарам “хуткай дапамогі”, напрыканцы жніўня прыехала ў сваю кватэру, што засталася ад цёткі, якая раней жыла ў нашым доме. І гэтай сварлівай, усім незадаволенай жанчыне чамусьці не спадабалася жывая агароджа з чатырох кустоў бружмелю, што я высадзіў на панадворку ўздоўж металічнай сеткі. Як толькі ў нашым доме з’явілася гэтая выпівака са сваім сужыцелем, я не магу пазбавіцца ад яе прычэпак. Спачатку яна зрэзала кустоўе бружмелю, высаджанае мною, затым пачала дзень і ноч выкурваць жыльцоў нашага дому цыгарэтным дымам, што віецца з вокнаў яе кватэры, і, урэшце, аблаяла і абразіла мяне, назваўшы беларускім жабраком. Пры гэтым пагражала падаць на мяне ў суд і хвалілася, што выйграе яго, бо багацейшая за мяне...

Калі гаварыць пра грамадскія настроі ў Еўпаторыі, дык мясцовыя ўкраінцы і татары лічаць паўвыспу часткай Украіны, а ў тых, хто ў свой час падтрымаў захоп Крыма Расіяй, эйфарыя пачынае знікаць. Гэта звязана з тым, што амаль нічога не змянілася ў добрабыце людзей, бо падвысіліся не толькі заробкі і пенсіі, але і цэны. Прычым стала цяжка ўладкавацца на працу, бо шмат якія прадпрыемствы спыняюць сваё існаванне. Апроч таго, у Крыме абвастраюцца праблемы абароны правоў чалавека. Так, мясцовыя суддзі ігнаруюць рашэнні Еўрапейскага суда па правах чалавека ў Страсбургу, хоць гэтыя рашэнні абавязковыя для Расіі. Пры гэтым трэба мець на ўвазе, што калі па заканадаўстве Украіны хуліганства з’яўляецца крымінальным правапарушэннем, дык па расійскім — адміністрацыйным. Узнікла пытанне з вяртаннем грашовых сродкаў жыхароў Крыма, што знаходзіліся на рахунках украінскіх банкаў, паколькі апошнія спешна пакінулі паўвыспу. Ускладнілася і ліставанне, паколькі ўся пошта з Крыма ідзе праз Расію...

І вельмі праблемнымі сталі транспартныя сувязі Беларусі з Крымам. Справа ў тым, што калі я цягніком ехаў з Мінска ў Еўпаторыю, дык у Чарнігаве ўкраінскія памежнікі паставілі ў маім пашпарце штамп аб прыбыцці ва Украіну, а расійскія памежнікі ў Джанкоі — адзнаку пра ўезд на тэрыторыю Расіі. Такім чынам, я амаль адначасова апынуўся ў дзвюх краінах адразу і ў такім абсурдным стане знаходзіўся цягам некалькіх месяцаў. У гэтай сітуацыі я не мог вяртацца на Бацькаўшчыну праз Керчанскі праліў і Расію, бо тады станавіўся б неўязным ва Украіну з той прычыны, што яе не пакідаў. А тых, хто ўехаў у Крым праз Расію, украінскія памежнікі вяртаюць, калі гэтыя людзі спрабуюць праз Украіну дабрацца да Беларусі. Матывацыя простая: “Вы праз Украіну ў Крым не ўязджалі, таму вяртайцеся дахаты сваёй жа дарогай!” Такая вось узнікла недарэчнасць...

Усё гэта сведчыць пра тое, што, апроч новых праблем, Расія нічога не прынесла жыхарам Крыма, дзе паболела хамства, крыміналу і бяспраўя.

**Марат ГАРАВЫ.**

